# Тыднёвік Магілеўскі




№ 22 (63) 3 чэрвеня 1999 г. Кошт свабодны


## Ці стануць ачышчальнымі нашыя сьлёзы

*...А ў нас у гэты самы вечар «сьвяткавалі» маскоўскіх Іванушкаў і праваслаўную Тройцу: бадзяліся вялікімі гуртамі па Першамайскай і на хаду выпівалі ў бліжэйшых дварах. Перад гэтым адзначалі Дзень памежніка. Крыху раней – Перамогу. Хутка разгуляемся на днях Вызваленьня і сьвяце горада. А там – і да Дня Рэспублікі рукой падаць. Падвядзе рысу пад летнімі сьвяткаваньнямі Дзень дэсантніка...*

*Пагуляем! І пачнем нанова.*



*Беларускі сьвяточны каляндар надзвычай багаты. Да ўсіх беражліва захаваных савецкіх сьвятаў – ад «дзяржаўных» да прафэсійных – дадаліся самыя разнастайныя свае: штомесяцовыя кірмашы пасярод гарадоў і белага дня з шашлыкамі і гарэлкай, славянскія базары і залатыя шлягэры, лыжныя начальніцкія марафоны і «дажынкі»... У нядзелю вечарам у сталіцы адзначалі адразу два: прэзэнтацыю эсэнгэшнай радыёстанцыі «Мір» і чарговага гатунку беларускага піва...*

*Скончылася трагэдыяй. Яе жудасная выпадковасьць і драматычны зьбег акалічнасьцяў маюць, як ні цяжка гэта прызнаваць, прадвызначанасьць і заканамернасьць.*

*Бо ва ўсіх нашых «сьвятаў» адзін сцэнар, адзін тон, адзін зьмест і адная мэта: гуляй, натоўп! Тут табе не дысцыплінаваны мітынг ці шэсьце з акрэсьленай грамадзянскай думкай – тут «народнае» гуляньне, дзе можна нарэшце і міліцыянтам расслабіцца.*

*Расслабіліся ў трагічны вечар усе. Але ў панядзелак сабраліся. Выказалі спачуваньне. Абумовілі «дапамогу». Прызначылі высокую камісію... Зьбіраліся на яе, відаць, пад страхам пакараньня, аднак абыйшлося. Самі і будуць расьследваць справу. Да такой маралі, як самастойнае прызнаньне віны, не дарасьлі. Гэта магчымае, калі чалавек на пасадзе служыць сумленьню, грамадзтву і прафэсіі. У нас служаць прэзыдэнту, а ён нечакана дараваў. Зразумець яго можна: як-жа выгнаць, ды й каго, калі побач усе свае.*

*Як гэта было на злашчаснай рок-прэзэнтацыі... Да таго моманту, праўда, пакуль усе не пабеглі, ратуючы – ад дажджу-та ўсяго-наўсяго! – кожны сябе.*

*Вось і ўся мараль натоўпу. Іншай яна не бывае. Аб'яднаны менавіта такой мараллю натоўп можа прынесьці толькі шкоду наваколльлю і нават сабе. Але хуценька і разьбяжыцца, як толькі скончыцца «зьядначы кайф». Каб ізноў сабрацца – не для жалобы ці роздуму – а для чарговага «сьвяткаваньня». У такіх рэжымах, як наш, натоўп заўсёды недатыкальны, ён па-за віной і адказнасьцю, ён апраўдальны і падтрымальны. Ён такім выхоўваецца і заахвочваецца. Бо менавіта ён ёсьць асноўным падмуркам рэжыму.*

*...Два дні афіцыйнай жалобы мінулі.*

*Рыхтуйцеся да наступных гуляньняў. Сустрэнемся на фэерверку ў Дзень горада. Ці на «санкцыянаваным» шэсьці ў Дзень дэсантніка. Альбо на шоў-канцэртах славянскага базару. Не забудзьцеся на «дажынкі».*

*Сьвятаў на наш век хопіць. Паменш бы сьлёз...*

**РЭДАКЦЫЯ**

## Сваё расьсьледваньне пачала грамадзкая камісія

Сусветным Днём абароны дзяцей Беларусь хавала сваіх больш за 50 падлеткаў. Арганізаванае з санкцыі ўладаў эстрадна-піўное шоў абярнулася ў нацыянальную катастрофу, па словах высокіх чыноўнікаў, «з-за трагічнага зьбегу абставінаў».

Слушна, што прыродныя зьявы накшталт дажджу не падпарадкоўваюцца дзяржаўнаму кантролю. Аднак усе астатнія акалічнасьці вечару 30-га траўня былі створаныя менавіта ўладамі. У тым ліку – некіраваны, прадастаўлены самому сабе натоўп. Тое, што загінулі два міліцыянты, якія вымушаныя былі зьдзяйсьняць чыста савецкі подзьвіг у варунках адсутнасьці парадку й прафэсіяналізму – пацьвярджае дзікунскія правілы і ўмовы нашага жыцьця.

Яшчэ адна акалічнасьць, якая не зьяўляецца выпадковай, гэта тое, што загінулі ні ў чым невінаватыя людзі. І справа тут не ў «высоких каблуках» дзяўчатаў, на якія спасылаўся міністар Ўнутраных справаў. Справа ў тым, што ўлада, якая скасавала ўсе дэмакратычныя інстытуцыі, перашкаджае грамадзкім ініцыятывам і зьнішчае самое прыватнае жыцьцё, тым самым узяла на сябе поўную адказнасьць за ўсё, што адбываецца ў краіне. Па ейнай лёгіцы, нічога асаблівага ў той вечар не адбывалася, што вымагала б пільнага сачэньня й прадбачаньня магчымых небясьпечных сытуацыяў. (Сапраўды, гэта-ж не апазыцыйнае шэсьце, падчас якіх колькасьць міліцыі й гэбістаў нярэдка ў некалькі разоў большая за ўдзельнікаў). Маральная глухата й бездухоўнасьць, якія спараджае рэжым, далі жудасны вынік.

Цяпер, калі ўлада за ўсё быццам бы адказвае, яна мяркуе, што і спытаць зь яе за гэтую адказнасьць няма каму, акром яе самой. Аднак шчодрым «матэрыяльным падтрыманьнем» людзей у іхным горы немагчыма заглушыць ня толькі боль, але й роздум пра ўмовы і абставіны канкрэтнай трагэдыі. Толькі гэта здольнае засьцерагчы грамадзтва ад паўтарэньня падобнага.

Таму ў Менску дэмакратычнымі партыямі створаная **грамадзкая камісія** з мэтаю безстароньняга высьвятленьня абставінаў трагэдыі. Яе ўзначаліў Лявон Баршчэўскі.

...Некаторыя высновы можна зрабіць ужо зараз. Добра было б, каб бацькі магілёўскіх непаўналетніх дзяўчатаў і хлопцаў зразумелі, што ў той самы вечар, калі іхныя дачкі бавілі час на чарговым канцэрце чарговых маскоўскіх «зорак», падобнай трагэдыі ў нас не адбылося толькі таму, што ў горадзе няма мэтро і не пайшоў дождж. За выняткам гэтых «дэталяў» афарбоўка настрою і стылю імпрэзы была той-жа, што і ў сталіцы.

Аднак пачакаем заключэньня грамадзкай камісіі.

***Віктар СУДНІК***

## РЭЙТЫНГ ПАДЗЕЯЎ ЗА ТРАВЕНЬ ПАВОДЛЕ «ТМ»

*СТАНОЎЧЫЯ ПАДЗЕІ*

***– Зьняцьцё Зянонам Пазьняком сваёй кандыдатуры з прэзыдэнцкіх выбараў, якія праходзілі з грубымі парушэньнямі Закону***

* * *

***– Заява Дзярждэпартамэнту ЗША аб апазыцыйных выбарах прэзыдэнта ў Беларусі, у якой засьведчаная падтрымка дэмакратычным пераўтварэньням у нашай краіне***

* * *

***– Праяўленая актывістамі травеньскай выбарчай кампаніі мужнасьць падчас затрыманьняў, арыштаў, судоў***

*АДМОЎНЫЯ ПАДЗЕІ*

***– Трагэдыя на станцыі мэтро «Няміга» ў Менску, у выніку якой загінула 52 чалавекі***

* * *

***– Зьнікненьне ў выніку гвалтоўнага захопу невядомымі асобамі актыўнага апазыцыйнага дзеяча Юрыя Захаранкі***

* * *

***– Парушэньні з боку кіраўніцтва Цэнтральнай выбарчай камісіі Закону аб выбарах прэзыдэнта і фальсыфікацыя вынікаў галасаваньня***

## Пакуль перамог клопат аб справе

30 траўня ў Менску прайшло паседжаньне Сойму Беларускага Народнага Фронту. Яго галоўным пытаньнем было абмеркаваньне сытуацыі ў БНФ пасьля правядзеньня травеньскай выбарчай кампаніі.

Перш за ўсё адбыўся абмен меркаваньнямі адносна запрашэньня ўдзельнічаць у маючых адбыцца перамовах паміж беларускай апазыцыяй і ўрадам у Бухарэсьце, якое кансультацыйна-маніторынгавая група АБСЭ ў Менску накіравала выконваючаму абавязкі кіраўніка БНФ Лявону Баршчэўскаму. Старшыня БНФ Зянон Пазьняк заклікаў яго ня ўдзельнічаць у гэтай ініцыятыве. Аднак пасьля абмеркаваньня гэтага пытаньня Сойм прыняў рашэньне аб удзеле Л.Баршчэўскага ў маючых адбыцца перамовах. Выконваючы абавязкі кіраўніка БНФ зьвярнуў увагу прысутных на той факт, што кіраўніцтва АБСЭ не запрасіла ў Бухарэст ні старшыню Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, ні кіраўніка Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзыдэнта Віктара Ганчара. Гэта, на думку Л.Баршчэўскага, сьведчыць аб стаўленьні АБСЭ да Вярхоўнага Савета ў сьвятле прайшоўшых прэзыдэнцкіх выбараў.

Зянон Пазьняк у сваім пасланьні назваў зьняцьцё сваёй кандыдатуры з прэзыдэнцкіх выбараў маральным крокам. З гэтым цалкам пагадзіўся намесьнік старшыні Сяргей Папкоў. Памылкай назвалі гэты крок Вінцук Вячорка і Юры Хадыка. Лідэр Фронту ў сваім пасланьні адзначыў, што «паводзіны спадара Хадыкі (публічнае ахайваньне старшыні Фронта, заклік да ўдзелу ў крымінальным галасаваньні, калі ўсё ўжо было зразумела і вырашана і г.д.) не пакідае ў мяне ніякіх сумненьняў аб яго далейшым знаходжаньні на пасадзе намесьніка старшыні БНФ».

Пазьняк таксама заклікаў кіраўніцтва БНФ вернуцца да акцыі ўступленьня ў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі і распачаць падрыхтоўку да стварэньня Грамадзкага Парлямэнту на шырокай прадстаўнічай аснове. Гэты парлямэнт, на думку Пазьняка, павінен выканаць тры асноўныя задачы: прыняць закон аб выбарах па зьмешаным (мажарытарна-прапарцыйным) прынцыпе, стварыць Галоўную Выбарчую Камісію і правесьці выбары ў парлямэнт па новым законе і Канстытуцыі 1994 году, а таксама сфармаваць часовы ўрад.

Пазьняк прапанаваў таксама рэфармаваць структуру кіраўніцтва Фронту такім чынам, каб арганізацыяй кіравалі старшыня і першы намесьнік, а Сойм зацьвярджаў бы (ці не зацьвярджаў) кандыдатуру першага намесьніка, якую прапаноўваў бы старшыня. Пазьняк лічыць, што сёньняшнія шэсьць намесьнікаў пад назвай Кіраўніцтва сталіся свайго роду саматармозячай сыстэмай абмеркаваньняў, і што апошнія два гады асабліва добра паказалі бясплённасьць гэтага інстытута.

Лявон Баршчэўскі паведаміў, што на ягоную думку новая структура Фронту можа быць ужытая выключна ў выпадку пераходу арганізацыі ў падпольле. Калі-ж гэтая структура кіраваньня будзе актыўна навязвацца на ліпеньскім зьезьдзе БНФ, то ён падасьць у адстаўку.

Такім чынам, асноўныя спрэчныя пытаньні, ад вырашэньня якіх будзе залежыць стан і самое існаваньне буйнейшага палітычнага руху Беларусі, перанесеныя на зьезд БНФ, які мае адбыцца ў канцы ліпеня.

***Уласная інфармацыя***

# Сапраўдныя перамены пакуль не наступілі



***Днямі на магілёўскім малочным камбінаце прайшла прафсаюзная канфэрэнцыя. Звычайная падзея ў жыцьці любой прафсаюзнай арганізацыі. Але гэтая набыла асаблівы статус і вагу: на парадак дня было вынесенае адзінае пытаньне – аб старшыні прафкама. Паводле-ж статуту чарговая справаздачна-выбарчая канфэрэнцыя тут мае адбыцца толькі напрыканцы году. Датэрміновую канфэрэнцыю ініцыяваў гаркам прафсаюзаў аграпрамысловага комплексу. Абмінуць такую падзею «ТМ» ня мог.***

Адкрытае акцыянэрнае таварыства «Магілёўскі малочны камбінат» адлічвае сваю гісторыю са студзеня 1980 года. Зараз на прадпрыемстве крыху больш за 500 чалавек. Працуе яно стабільна, наколькі гэта можна сьцьвярджаць пры цяперашнім стане нашай сельскай гаспадаркі. Узровень заробкаў трымаецца недзе блізу сярэдняга па горадзе.

Магчыма, чытачы ўзгадаюць камбінат у зьвязку з гучнымі падзеямі нядаўняга мінулага. Жыцьцё тут віравала, бо на прадпрыемстве ўтварылася суполка Свабодных прафсаюзаў, якая актыўна змагалася за правы працоўных. Прозьвішча тутэйшага старшыні СП Сяргея Іванова было вядомае ў сувязі з судовымі паседжаньнямі, спробамі страйкаў, мітынгамі і нават галадоўкай. Супрацьдзейнічалі свабоднаму прафсаюзу, зразумела, адміністрацыя і прафсаюз афіцыйны, да старшыні якога зараз і ўзьніклі прэтэнзіі з боку гаркама.

Чытач, мабыць стаміўся чакаць, калі-ж мы назавем ягонае прозьвішча. Хто-ж той «цьвік», што не дае спакою прафсаюзнаму кіраўніцтву? Вось ён: Шарапаў Уладзімер Васільевіч. Мяркуем, што і гэтае прозьвішча шмат каму вядомае ў нашым горадзе ад часоў палітычнай актыўнасьці пачатку 90-х гадоў.

Чытачы «ТМ» мелі мажлівасьць сачыць за ягоным лёсам у зьвязку зь дзейнасьцю на пасадзе старшыні абласной камісіі па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, што адбыліся ў траўні. На думку самога Уладзімера Шарапава, гэтая дзейнасьць і сталася прычынай для захадаў па адхіленьні яго ад прафсаюзнай пасады й работы.

На канфэрэнцыю сабралася 88 дэлегатаў з абраных 106-ці. Зацьвердзілі парадак дня: дадатковых пытаньняў да пазначанага вышэй унесена не было. Таму адразу слова ўзяла старшыня гаркама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Людміла Забелава. Яна падрабязна выклала ўсю «гісторыю пытаньня», выказала шматлікія прэтэнзіі да старшыні прафкаму, распавяла пра аднадушнае меркаваньне прэзыдыюму гаркаму аб тым, што «далей так жыць нельга».

Паводле словаў спадарыні Забелавай гэта абумоўлена тым, што **«...мы располагаем материалами за последние два-три года, которые несоизмеримы с действиями председателя профкома...»** Сярод гэтых дзеяньняў былі названыя такія, як **«...самовольный уход-приход на работу, невыполнение своих обязанностей согласно Устава, обман...»**.

Чаго толькі не паспыталі ў дачыненьнях з Шарапавым: праводзілі папераджальныя размовы, аб'яўлялі заўвагі, даверліва гутарылі, бо **«...все мы живые люди»**. Нарэшце гады два таму ён даў начальніцы слова мужчыны, што калі ня выправіцца – сам прыйдзе за пакаяньнем і пакараньнем. Аднак: **«...по сей день слово мужчины не сдержал... ко мне не пришел»**.

Наракала Людміла Раманаўна й на тое, што старшыня не наведваў паседжаньні гаркама, няправільна афармляў дакумэнты. Увогуле пералік парушэньняў з боку Шарапава, пралікаў у ягонай рабоце быў даволі вялікім. Нарэшце прагучала і тое, што нядаўна, у сувязі з выбраньнем старшынём абласной выбарчай камісіі па выбарах 16 траўня, ён прадаставіў дакумэнты за подпісам Віктара Ганчара аб часовым вызваленьні ад працы на час кампаніі. Аднак, зазначыла сп. Забелава, гэтыя дакумэнты **«нами»** не маглі быць узятыя да ўвагі, бо **«...все мы живем при одной власти и, пока у нас государственная власть и Президент, мы подчиняемся ей. Будет другая – будем подчиняться другой»**. А скончыла свой выступ старшыня прафсаюзнага гаркама наступнымі словамі: **«Наше мнение однозначно: Владимир Васильевич не может, допуская такие нарушения, занимать пост председателя профкома, которые противоречат Уставу профсоюзов»**.

У. Шарапаў выступаў наступным. Ён адзначыў, што гэтая канфэрэнцыя ёсьць спробаю пакараць яго менавіта за выбарчую актыўнасьць, бо яму падчас кампаніі ў абкаме прафсаюзаў заявілі, што калі ён ня кіне выбарчай дзейнасьці – цягам паўтары гадзіны зьбяруць сумесны прэзыдыюм гаркама і абкама й здымуць з пасады старшыні. Аднак на ягоную думку дзейнасьць на пасадзе старшыні абласной камісіі па выбарах Прэзыдэнта была цалкам законная. Бо ні Прэзыдэнт, ні які іншы орган, ад якога залежыць адпаведнае рашэньне, ня вынес пастановы аб незаконнасьці выбараў. Далей Шарапаў паведаміў дэлегатам пра свае суды, праз якія прайшоў гэтым часам. Але аніводзін судзьдзя так і не патлумачыў яму і грамадзкім абаронцам, у чым парушэньне, за якое каралі. Пры гэтым выглядае ня менш дзіўным тое, што трое судзьдзяў, у вадрозьненьне ад астатніх, у адных і тых-жа дзеяньнях Шарапава ня ўгледзелі складу парушэньня. Падсумаваў выступоўца так: «Я лічу, што чыньнікам сёньняшняга нашага сходу ёсьць перасьлед мяне за палітычныя погляды, за тое, што я пачаў рабіць тое, дзеля чаго існуюць прафсаюзы. Пры нашых мізэрных заробках і ўзроўні жыцьця, пры наяўнасьці ў краіне болей 2-х мільёнаў сябраў прафсаюзаў – кіраўнікі краіны ня выступілі й не патлумачылі, чаму мы так жывем».

Потым выказаўся дырэктар камбіната Мікалай Ганчарэнка, які адразу прапанаваў ня ўцягвацца ў абмеркаваньне праблемы выбараў Прэзыдэнта. Аднак сам ня здолеў гэтую тэму абыйсьці й прысьвяціў ёй ці не палову часу свайго выступу. Пры гэтым выказаў сябе дасьведчаным у палітычным жыцьці краіны, а таксама адсочваньні навінаў у незалежным друку. Напрыканцы ён прапанаваў У. Шарапаву сыйсьці па-добраму, паабяцаўшы прадаставіць яму працу: **«...работай себе спокойно, занимайся себе чем угодно... в свободное от работы время»**.

Потым дэлегаты задавалі пытаньні, прагучала некалькі кароценькіх выступаў як крытычнага зьместу, так і ў падтрымку старшыні. Прагаласавалі за таемнае галасаваньне, выбралі падліковую камісію, сфармулявалі пытаньне ў бюлетэні, якое гучала так: «Вызваліць старшыню прафкама Шарапава У.В. за прагулы».

Мне не дазволілі прысутнічаць у пакоі, дзе падлічваліся галасы. За дазвол прагаласавалі двое сябраў камісіі, пяць было супраць. Таму на перапынку быў час неафіцыйна пагутарыць з дэлегатамі. Мужчыны, што бавілі час у курылцы, выказаліся ў падтрымку Шарапава. Нехта ўзгадаў выпадак, калі ў аднаго з рабочых згарэла хата, і першым, хто яму дапамог уласнымі грашыма, быў старшыня прафкама (хаця той чалавек зараз настроены супраць Шарапава). Падсумавалі свой настрой так: вялікіх нараканьняў на працу няма, нас у крыўду не дае. Жанчыны, якіх засьпеў у залі, выказваліся больш палярна: адныя падтрымлівалі Шарапава, іншыя схіляліся да «звальненьня».

Было відавочным, што чаканьне вынікаў работы падліковай камісіі было для многіх у залі нэрвовым, напружаным часам. Вырашалася ня толькі «пытаньне Шарапава», але і аўтарытэт гаркама, адміністрацыі прадпрыемства.

З кім праявяць дэлегаты салідарнасьць, каго падтрымаюць? Узгадаліся зусім недалёкія часы. Нават уявіць было немагчыма, што калектыў будзе мець права і магчымасьць паставіць пад сумнеў рашэньне вышэйстаячых інстанцыяў, а тым больш – пярэчыць гэтаму. Добрыя зьмены ў грамадстве, сьвядомасьці людзей не заўсёды заўважаюцца намі, аднак яны адбываюцца.

Вернемся аднак у залю. Вынікі галасаваньня аказаліся на карысьць старшыні. 59 дэлегатаў выказаліся за тое, каб Шарапаў працягваў заставацца на сваёй прафсаюзнай пасадзе, 26 чалавек пагаджаліся на ягонае звальненьне, а 3 бюлетэні былі прызнаныя несапраўднымі.

Заля сустрэла такія вынікі гучнымі воплескамі, якія мне падаліся шчырымі. Людзі падыходзілі й віншавалі старшыню. Ён у вадказ выказаў падзяку за давер й падтрымку.

Што хацелася б адзначыць у заключэньне. Мяркую, што Уладзімер Шарапаў сапраўды ня самы лепшы прафсаюзны функцыянэр. І, зразумела, ня самы горшы. Аднак-жа на канфэрэнцыі гаворка пра тое і не ішла, пры ўсім нібыта стараньні ініцыятараў мерапрыемства. Яны намерваліся пакараць Шарапава менавіта за «палітыку», хаця старанна гэта хавалі. А іншых пераканаўчых доказаў «дрэннай работы» не знайшлі. Дэлегаты, падаецца, гэта добра зразумелі. Шарапаў між іншым зразумеў гэта й такім чынам, што рабочыя «падтрымалі тую агульную справу, якую ўсе мы рабілі па выбарах прэзыдэнта».

***Як гаворыцца, дай Бог яму не памыліцца. Бо, як паведаміў па тэлефоне нашай рэдакцыі сп. Сяргей Крутаўцоў, старшыня абкаму прафсаюза аграпрамысловага комплексу, «нічога пакуль ня скончана, мы хутка вернемся на камбінат, бо перакананыя, што прафсаюзная пасада і палітычная дзейнасьць несумяшчальныя».***

***І праўда, пры ўсіх нашых добрых пераменах, дзе вы бачылі, каб улада лёгка здавалася, адмаўлялася ад сваіх плянаў, давяралася меркаваньню калектываў. Да такіх пераменаў, па ўсяму відаць, яшчэ далёка.***

***Валадар ЦУРПАНАЎ***

## КРОНІКА ТЫДНЯ: ПАДЗЕІ І ФАКТЫ

***Адносна спакойна для магілёўцаў прайшоў сёлетні дзень памежніка.*** Гэтае сьвята савецкай арміі разам з днём дэсантніка апошнія гады наводзіць нямала страху на грамадзтва і міліцыю. Адчуваючы сваю «сацыяльна-ідэалягічную» блізкасьць да сёньняшняй улады, памежнікі і дэсантнікі паводзяць сябе на вуліцах родных гарадоў як акупанты на чужынскай тэрыторыі – менавіта так, як паводзілі сябе савецкія салдаты ў Афганістане, а пазьней – у Азэрбайджане, Літве, Таджыкістане, Чачэніі. Такога кшталту «традыцыі» лёгка перадаюцца нават тым беларускім хлопцам у вайсковай форме, хто не бываў і ня служыць сёньня ў «гарачых кропках». Бо камандуюць гэтымі беларускімі войскамі тыя-ж савецкія афіцэры, для якіх Беларусь ёсьць ня родным домам, а вайсковай акругай, дзе выпала служыць. Зусім ня супраць выхаваньня настальгічнага «патрыятызму» прэзыдэнт і ягоная адміністрацыя.

Статыстыка падводзіць вынікі «сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця» рэгіёнаў за 4 месяцы. Яны ўсюды несуцяшальныя. Напрыклад, усе паказчыкі сельскай гаспадаркі Круглянскага раёна, а іншых галінаў эканомікі ў ім няма, значна горшыя за мінулагоднія, якія таксама не былі высокімі. На гэтым фоне асабліва заўважальнымі становяцца чалавечыя страты, якія нясе раён у выніку гаспадарчага заняпаду. Людзей усё больш памірае, чым нараджаецца, усё больш зьязджае няведама куды, усё менш рэгіструецца шлюбаў і ўсё больш іх скасоўваецца.

***Мсьціслаўскі хлебазавод, дарэчы, вядомы ў савецкія часы добрай якасьцю прадукцыі, зараз, каб выжыць,*** нарошчвае вытворчасьць вінных напояў па таннай цане і сумнеўнай якасьці. Аднак-жа менавіта гэты «прадукт» дае прыбытак, а кандытарскія вырабы і некаторыя хлебныя прыносяць прадпрыемству толькі страты.

***На выпускных школьных «лінейках» вучням Вішоўскай сярэдняй школы Бялыніцкага раёна*** былі прадстаўлены «грамадзкія класныя кіраўнікі» зь ліку галоўных спэцыялістаў мясцовага калгаса «Радзіма». Цяжка ўявіць, што будуць рабіць занятыя сельскімі клопатамі аграномы, вэтэрынары і інжынэры ў школе, якая да таго-ж сыходзіць на іспыты і канікулы. Аднак раённая газэта патлумачыла, што гаворка ідзе пра «кантроль за вольным часам і дзяжурствах на дыскатэках».

***Чэрыкаўская раёнка «Заклік Ільіча» прыадчыніла завесу таямніцы над тым, чым займаюцца дэпутаты т.з. «ніжняй палаты».*** Памочнік дэпутата Уладзімера Ягорава (былога міністра УС) паведаміў, напрыклад, што «ёсьць уклад дэпутата ў справе набыцьця калгасам «Бальшавік» прадукцыйнага маладняку жывёлы, кароў». Аднак і непасрэднай законатворчай работай дэпутаты таксама займаюцца, хаця прыкладаў таго не прыводзіцца. Але гэта ясна па загалоўку артыкула: «Даводзіцца ня толькі законы прымаць, а і рашаць праблемы»... Прымаць законы ў нас, як вядома, сапраўды ніякая не праблема, таму трэба-ж нечым дэпутатам займацца.

***Касавіца траў яшчэ не распачалася ў вобласьці «шырокім фронтам», па прычыне найперш*** не гатоўнасьці корманарыхтоўчай тэхнікі, а ўжо ёсьць яе першыя героі. Як не аднесьці да іх, напрыклад, галоўнага інжынэра слаўгарадзкага калгаса «Уперад», пра якога раёнка паведаміла, што падрыхтоўка да касавіцы ўжо каштавала яму «не адну бяссонную ноч». Відаць, інжынэр адасьпіцца, калі калгасьнікі пачнуць нарыхтоўку кармоў. З другога боку, сам спэцыяліст выказвае сумнеў наконт таго, «ці будзе што ўбіраць».



***Са стварэньня надзейнай службы аховы пачаў «адраджэньне» колішняй знакамітай чавускай гаспадаркі*** «Магілёўсада» новы – ці не дзесяты за апошнія 5-6 гадоў – ейны дырэктар. Наступным сваім крокам ён абвесьціў змаганьне за тое, каб гаспадарку пазбавілі ад пляну «па жывёлагадоўлі», які толькі замінае гаспадарцы займацца непасрэднымі праблемамі галіны. А галіна, як відавочна, у заняпадзе: у нас даўно прасьцей набыць экзатычнае авакада, чым звычайны беларускі яблык.

***Мсьціслаўскі райвыканкам паведаміў пра скасаваньне дзейнасьці ў раёне 13 прыватных прадпрымальнікаў.*** Прычыны гэтай «эпідэміі» не паведамляюцца, аднак можна меркаваць, што яны сталіся першымі ахвярамі «стратэгічнай цэнавай палітыкі» прэзыдэнта, які цяпер асабіста вызначае гэтыя пытаньні. Апошні ўказ, на жаль, ня стане апошнім ударам па прадпрымальніцтву і рынкавых адносінах у эканоміцы. Дэпутаты «верхняй» палаты гатовыя прыняць закон «Аб спэкуляцыі», які таксама напачатку атрымаў «дабро» ў адміністрацыі прэзыдэнта. Аналягаў такому закону няма ні ў воднай нармальнай краіне, затое ён дзейнічае на Кубе і ў Паўночнай Карэі. Зараз да барацьбітоў «за справядлівасьць і роўнасьць» далучаецца Беларусь.

***Цікава, ці будуць прыцягнутыя да адказнасьці дзяржаўныя выданьні, якія нечакана гэтымі днямі дружна*** адгукнуліся на травеньскія «прэзыдэнцкія выбары», за адзін напамінак пра якія пацярпелі многія недзяржаўныя газэты. Ня будуць, зразумела, бо ўсе яны надрукавалі абавязковы камэнтар БЕЛТА, якое зь непрыхаваным задавальненьнем паведаміла пра напружанасьць паміж ЦВК і шэрагам, найперш БНФ, дэмакратычных партыяў. Аднак узгадаем, што «папярэджаньні» міністэрства юстыцыі і генэральнай пракуратуры падчас кампаніі тычыліся недапушчальнасьці апублікаваньня ў друку паведамленьняў пра сам ФАКТ выбараў. Як цяпер быць зь БЕЛТА й тымі, хто падхапіў ягоны «аналітычны» артыкул?..

— ***Адбылося некалькі кадравых зьменаў у вышэйшым зьвяне абласной улады.*** За апошнія тыдні новыя кіраўнікі зьявіліся ў двух раёнах — Магілеўскім і Чавускім, а ў старшыні аблвыканкама — два намесьнікі, па эканоміцы і сацыяльных пытаньнях. Імі сталі Д.Сівіцкі і А.Глаз. Значыць, прыдуць новыя старшыні выканкамаў у Магілеве і Бабруйскім раёне. Гэтыя зьмены зьдзіўляюць назіральнікаў сваёй «нягучнасьцю».

***Інфармацыйная служба «ТМ»***

КРОНІКА ТЫДНЯ: ПАДЗЕІ І ФАКТЫ

